*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 54 (4306)**

10 ліпеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Не застаньцеся пасля адпачынку без «Народнай Волі»...

Не першы год заўважаем: летам падчас адпачынкаў хто-ніхто прыпыняе падпіску. Але ж у гэтым хаваецца пэўная небяспека: потым можна спазніцца з яе аднаўленнем.

Таму нагадваем: каб атрымліваць газету па пошце, напрыклад, у жніўні, аформіць падпіску трэба да 20 ліпеня. Пасля гэтай даты падпісацца можна будзе толькі на верасень і наступныя месяцы.

**"Народная Воля" выдаецца свабоднымі журналістамі для свабодных людзей!**

ПРАПАНУЕМ!

# Наш варыянт памятнага знака мемарыяла «Курапаты»











Шаноўная рэдакцыя газеты "Народная Воля"!

Мінула больш за год з таго часу, як быў абвешчаны конкурс на эскізны праект памятнага знака мемарыяла "Курапаты".

Вынікі гэтага конкурсу, аб'яўленага Міністэрствам культуры (загад №69 ад 24.03.2017), павінны былі падвесці не пазней 1 мая 2017 года.

Да гэтага часу ўдзельнікі конкурсу і ўвогуле грамадскасць не маюць афіцыйнай інфармацыі не толькі пра выніkі конкурсу, але і ніякіх тлумачэнняў наконт таго, што адбываецца...

У сувязі з гэтым мы, аўтары аднаго з конкурсных праектаў, вырашылі прапанаваць рэдакцыі "Народнай Волі" азнаёміць грамадскасць з нашым варыянтам памятнага знака. Робім мы гэта без нейкага разліку на піяр уласнай ідэі (папярэдне мы атрымалі з боку галоўнага рэдактара гарантыю, што любы ўдзельнік конкурсу зможа надрукаваць сваю прапанову. – **Л.З.**). Мы лічым тэму Курапатаў занадта важнай, каб заблытаць яе ў чыноўніцкіх калідорах.

Мы ўпэўнены, што без Пакаяння не можа быць ні Памяці, ні Прымірэння.

З павагай архітэктары –

**Лявонцій ЗДАНЕВІЧ,**
**Наталля ШАСТАКОВА.**

КАМЕНТАРЫЙ

Дзякуючы людзям, якія 30 гадоў ахоўваюць урочышча "Курапаты" на поўначы Мінска, фактычна створаны своеасаблівы мемарыяльны комплекс.

Крыж – найбольш лаканічны і ўсёабдымны сімвал памяці чалавечых ахвяр – узяты ў аснову прапанаванай гэтым эскізным праектам кампазіцыі памятнага знака.

Мы, аўтары, упэўнены, што знак не варта размяшчаць у глыбіні Курапацкага лесу, дзе на любых месцы магчымы пахаванні і дзе непажадана масавае скапленне людзей і гучныя пафасныя мерапрыемствы. Стварэнне нашымі патрыётамі асяроддзе адпавядае трагічнаму вобразу гэтага месца, а дамінаванне прыроды (лес) ўвасканшвае надзею на вечнасць чалавечага духу і жыцця.

Таму прывязка каплічкі да ўваходнай пляцоўкі, непасрэдна ля кальцавой магістралі не толькі дазволіць захаваць без радыкальнага ўмяшальніцтва ўсю мемарыяльную зону ўрочышча, але і стане заўважным інфармацыйным знакам, які дазволіць многім мінчанам і гасцям горада больш даведацца пра падзеі 80-гадовай даўніны. Курапаты павінны стаць агульнанацыянальным месцам пакаяння, памяці і прымірэння.

Канструкцыя каплічкі элементарна простая:

– 4 жалезабетонныя пілоны сустракаюцца крыжападобна ўверсе і фарміруюць піраміду з вяршыняй "круглага" крыжа; колер жалезабетоннай канструкцыі – белы;

– аб'ём унутранай прасторы са скразнымі праходамі, якая не ацяпляецца, фарміруецца чорным кубом с пірамідальнай верхняй часткай объему з загартаванага чорнага паўпразрыстага шкла (без бачнага каркаса);

– у цэнтры ўнутранай прасторы ўстаноўлена мемарыяльная кампазіцыя (памятны знак) з подыумам для ўскладання кветак (унізе), стылізаваным бронзавым вянком (зверху), які адмяжоўвае месца для ўстаноўкі свячэй, і вечна палаючай лампадай у цэнтры.

Усе элементы кампазіцыі носяць абагулены сімвалічны характар і не сімвалізуюць канкрэтную канфесійную прыналежнасць.

Арыенціровачны кошт пабудовы памятнага знака "Курапаты" – 150–180 тысяч рублёў.

*АД РЭДАКЦЫІ*

"Народная Воля" прадастаўляе свае старонкі для ўсіх, хто хоча прапанаваць свой праект альбо проста выказацца наконт таго, якім павінен быць памятны знак мемарыяла "Курапаты".

РЭАЛЬНАЯ ЭКАНОМІКА

## Як пашыраецца «Ганна»...

Нядаўна было прынята рашэнне рэарганізаваць ААТ «Віцебская бройлерная птушкафабрыка» (гандлёвая марка «Ганна»). Да яе далучаюць ААТ «Агротруд» – нерэнтабельную гаспадарку, страты якой у 2017 годзе склалі больш за 2,3 млн рублёў.

Як вядома, некалькі гадоў таму была затрымана гендырэктар «Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі» Ганна Шарэйка па абвінавачванні ў махінацыях пры закупцы корму для птушак. Пасля доўгага знаходжання ў СІЗА ў 2016 годзе яна была адпушчана ў зале суда. Многія пункты абвінавачвання былі зняты. Яе прызналі вінаватай толькі па малаважным аб'ёме абвінавачванняў, зняўшы ўсе прэтэнзіі па фінансавай шкодзе. Пакуль Шарэйка адсутнічала, фінансаване становішча кампаніі рэзка пагоршылася. Цяпер жа справы на фабрыцы ідуць няпрэнна, выраслі аб'ёмы выручкі: з 182,7 млн руб. у 2016-м да амаль 215 млн у 2017 годзе.

«Ганна» – амаль цалкам дзяржаўны актыў, паводле дадзеных на 2017 г. дзяржаўная доля на прадпрыемстве – звыш 98%.

СТАЛА ВЯДОМА

## Больш за мільён долараў выдзелена на Дзень беларускага пісьменства

Гэтыя сродкі, як расказаў дырэктар УКБ Іванаўскага раёна Валерый Грудовік, пойдуць на падрыхтоўку горада Іванава да рэспубліканскага свята.

Сярод аб'ектаў, якія будуць мадэрнізаваны, – вуліцы, гарадскі парк, дзіцячае аддзяленне цэнтральнай раённай бальніцы, СШ №4 і іншыя.

Як вядома, XXV Дзень беларускага пісьменства пройдзе ў Іванаве 2 верасня і будзе прысвечаны тэме "Мая малая радзіма".

ЧУЛІ?

## Мітрапаліт Павел прызнаўся, што жыве ў Драздах



Кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Павел 9 ліпеня распавёў пра сваю маёмасць, выступаючы ў судзе як сведка па справе аб злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі ў дачыненні да **Уладзіміра Грозава,** былога першага намесніка дырэктара выдавецтва Беларускага экзархата.

Працэс ідзе ў Заводскім судзе Мінска.

Агульная сума нанесенай дзяржаве шкоды складае 3,8 мільёна рублёў, паводле матэрыялаў Генпракуратуры. Праваслаўная царква выставіла Грозаву іск на 750 тысяч долараў, але ў першы дзень працэсу адмовілася ад яго. Мітрапаліт Павел заявіў у судзе, што шкадуе аб тым, што ініцыяваў узбуджэнне крымінальнай справы ў дачыненні да Грозава.

Таксама мітрапаліт Павел заявіў у судзе, што за апошнія гады яму неадназначна дарылі новыя аўтамабілі. Ён іх перадаваў манастырам і прыходам, але, каб пазбегнуць бюракратыі, проста выпісваў даверанасці. Асобна ён згадаў, што на 65-годдзе атрымаў «Майбах». Юбілей ён адсвяткаваў у 2017 годзе. Паводле слоў мітрапаліта, цяпер на яго зарэгістраваны два аўтамабілі.

ЖИТЕЙСКАЯ ТЕМА

*Правительство приняло постановление №510, которым вносятся существенные изменения в порядок оплаты жилищно-коммунальных услуг. О некоторых из них было сообщено в предыдущем номере «Народной Воли». Сегодня – об остальных.*

# Новые тарифы: знакомьтесь!

*(Окончание. Начало в №53.)*

### Услугу можно приостановить

– У городских жителей, имеющих загородные дачи или доставшиеся по наследству дома, возникал справедливый вопрос: мол, проживаю на даче максимум три месяца, а платить за вывоз мусора нужно круглый год. Постановление предусматривает возможность приостановления оказания данной услуги на срок до 6 месяцев в календарном году. Для этого нужно обратиться с соответствующим заявлением в организацию, осуществляющую вывоз ТКО или производящую расчет и начисление платы. Особо следует подчеркнуть, что данная норма касается одноквартирных, блокированных жилых домов, в которых отсутствуют зарегистрированные по месту жительства граждане.

### Поливай, но считай

– Нормы потребления воды для оплаты по субсидируемым тарифам составляют 140 л в сутки на человека, и экономные граждане вполне укладываются в данный лимит. Но хозяевам индивидуальных домов, которые содержат скот, а летом вынуждены поливать огороды, краны приходится открывать гораздо чаще. В городской квартире поступившая из сети вода сливается в канализацию, а значит, и плата за водоотведение берется соразмерно. А вот при поливе огорода и поении животных дополнительной нагрузки на канализационные сети нет. Постановлением этот вопрос урегулирован: нужно лишь установить отдельный прибор учета, контролирующий расход воды на полив и содержание скота, и этот объем воды будет исключаться из платы за услугу водоотведения.

### Капремонт. Деньги под контроль

– Сейчас в постановлении прямо прописано, что отчисления граждан на капитальный ремонт предназначены исключительно для капитального ремонта. Воспользоваться ими для решения других вопросов не удастся.

### Общежития. Есть договор найма – есть обязанность по оплате услуг

– Граждане, проживающие в общежитии и заключившие договор найма жилого помещения, обязаны вносить плату за водоснабжение, водоотведение, электрическую энергию, в том числе за потребляемую на освещение вспомогательных помещений и работу оборудования, а также за санитарное содержание вспомогательных помещений, то есть за все услуги, начисляемые в зависимости от количества проживающих. Ранее подобная обязанность фактически возлагалась только при регистрации в общежитии по месту жительства или по месту пребывания, что приводило к неоднозначным ситуациям.

### Переплатили за ЖКУ? Возврат «живыми деньгами»

– В случае ошибочного внесения лишних сумм за потребленные жилищно-коммунальные услуги по желанию гражданина ему возвратят разницу, если он обратится с соответствующим заявлением в обслуживающую организацию. Вместе с заявлением необходимо будет также представить документ, удостоверяющий личность, и платежные документы, подтверждающие факт оплаты. Напомним, что ранее лишние суммы не возвращались, а списывались в счет будущих платежей.

### Срок давности для ошибки

– В постановлении прописан порядок устранения допущенных исполнителем ошибок, в результате которых приходится дополнительно начислять плательщику определенные суммы. Сейчас это возможно сделать только за три месяца. Раньше срок был значительно больше – три года. С другой стороны, срок давности остается таким же (три года) в случаях, если недостаточное начисление производилось по вине гражданина. Например, если поменялся собственник, а об этом не было своевременно сообщено.

### Уточнение деталей

– Постановлением предусмотрен также ряд уточняющих моментов, без которых раньше было возможно неоднозначное толкование законодательства. К примеру, если в квартире проживают два и более собственника, начисление производится отдельно по каждому лицевому счету соразмерно доле в праве собственности.

Отдельно прописан вариант при начислении платы на условных граждан за услуги: «электроснабжение на работу лифта», «электроснабжение» и «газоснабжение» при отсутствии индивидуальных приборов учета. Если в жилом помещении никто не зарегистрирован, то число условных граждан определялось путем деления общей площади на 20 с округлением в сторону уменьшения до целого числа. Но из этой формулы расчетов выпадали помещения, площадь которых составляет менее 20 м², поскольку при округлении получался ноль. В постановлении предусмотрено, что в таких случаях количество условных граждан принимается за единицу.

ПАЛІТКУХНЯ

# Без інтрыгі

## У Аб'яднанай грамадзянскай партыі новы старшыня – Васіль Палякоў з Гомеля.

Чакалася, што чарговы з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які адбыўся 8 ліпеня, будзе гарачым. Аб сваім намеры балатавацца на пасаду старшыні напярэдадні заявілі дэпутат Палаты прадстаўнікоў, сябра партыі **Ганна Канапацкая**, двое намеснікаў старшыні **Мікалай Казлоў** і **Васіль Палякоў**, не выключалася, што сваю кандыдатуру зноў выставіць і **Анатоль Лябедзька.**

*– Першы раз за шмат гадоў напярэдадні з'езда я не пісаў тэзісы да выступлення,* – адрасу заявіў Анатоль Уладзіміравіч. *– Напярэдадні спакойна глядзеў футбол. Рашэнне прынята: я не буду балатавацца на пасаду старшыні АГП. Лічу, што карысна выйсці з ракі і паглядзець за яе цячэннем з берага. Я не кажу палітыцы "Бывай!", я кажу: "Да пабачэння!"*




Не стала вылучацца на пасаду старшыні партыі і Ганна Канапацкая. Яна ўвогуле была амаль незаўважнай на з'ездзе і нават не палічыла патрэбным выступіць перад дэлегатамі. Што стала прычынай самаадводу – да канца не ясна, але паводле інфармацыі "Народнай Волі", напярэдадні з'езда АГП было праведзена закрытае ўнутрыпартыйнае галасаванне за магчымых прэтэндэнтаў на крэсла старшыні. Свае галасы за Канапацкую аддалі толькі два чалавекі. У кулуарах з'езда гаварылі і пра тое, што паміж Канапацкай і Лябедзькам існуе дамоўленасць: не вылучаецца дзейны старшыня – не вылучаецца і Канапацкая.

Нягледзячы на адмову Канапацкай ва ўдзеле ў выбарах старшыні, папрокі ў яе адрас гучалі.

– Лічу, што дэпутацкі мандат, які мае Ганна, не выкарыстоўваецца напоўніцу, – гаварыў адзін са старэйшых сябраў партыі **Леў Маргол**і**н**. – Яна павінна была выступаць на кожным пасяджэнні ў парламенце, і яе выступленні заўжды павінны былі заканчвацца фразай: "Карфаген павінен быць зруйнаваны", што ў нашых рэаліях азначае: "Беларусі патрэбны свабодныя і сумленныя выбары". Але гэта чамусьці не гучала…

Калі Канапацкую крытыкавалі, то Лябедзьку, наадварот, угаворвалі балатавацца на пасаду старшыні зноў. Не ўгаварылі.

У выніку дэлегаты з'езда рабілі выбар паміж чатырма прэтэндэнтамі: былой дэпутаткай **Людмілай Гразновай**, самавылучэнцам **Максімам Жарноўскім** з Горак, **Васілём Паляковым** і **Мікалаем Казловым.**

Апошні, дарэчы, у сваім выступленні адкрыта заклікаў галасаваць за Палякова, за якога і сам аддаў свой голас.

У размове з "Народнай Воляй" Мікалай Казлоў так растлумачыў гэта:

– Вы ж хацелі інтрыгі – вы яе атрымалі. Я вылучыў сваю кандыдатуру як супрацьвагу Ганне Канапацкай, бо для мяне яе абранне на пасаду старшыні было б непрымальным. А калі гаварыць шчыра, то я пакуль не гатовы ўзначаліць АГП. У сілу розных прычын. Асабістых і не вельмі Адна з іх такая: пакуль я недасканала валодаю беларускай моваю, а гэта вельмі важна для старшыні такой партыі, як АГП.

У выніку сенсацыі не адбылося – новым старшынёй АГП абраны гамяльчанін **Васіль Палякоў.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО



# «Мой стыль кіраўніцтва адрозны ад стылю Лябедзькі»

Пасля абрання на пасаду старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі 49-гадовы Васіль Палякоў даў бліц-інтэрв'ю "Народнай Волі":

**– Як даўно вы прыйшлі ў беларускую палітыку?**

– Калі казаць пра ўступленне ў АГП, то адбылося гэта ў 1996-м, калі ў краіне ішла падрыхтоўка да рэферэндуму, які паклаў пачатак зруйнаванню дэмакратычных інстытутаў у Беларусі. Я вырашыў уступіць у шэрагі АГП, каб адстойваць дэмакратыю. Для мяне гэта было прынцыпова. Але скажу, што я тады браў удзел у вялікай палітыцы, я не магу. Сур'ёзна я падышоў да гэтага пытання ў 2012-м, пасля абрання намеснікам старшыні АГП. У партыі я адказваў за працу з рэгіёнамі, удзельнічаў у выбарчых кампаніях.

**– Што за чалавек Васіль Палякоў?**

– Я нарадзіўся ў 1969 годзе ў вёсцы Гусараўка Рэчыцкага раёна. Там жа скончыў школу. Пасля паступіў у Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Скарыны. Паводле адукацыі я гісторык. Дванаццаць гадоў адпрацаваў настаўнікам у школе. За спінай таксама аспірантура Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы па спецыяльнасці "паліталогія". Жонка Святлана таксама гісторык, працуе на кафедры прыватнай навучальнай установы. У нас ёсць 24-гадовы сын, які нядаўна прыйшоў з войска. Служыў ён, дарэчы, у Пячах. Прысягу яны прымалі разам з Аляксандрам Коржычам, але служылі пасобку. Сын юрыст па адукацыі.

**– Члены вашай сям'і таксама сябры АГП?**

– Жонка так, сын – не.

**– Вы жывяце з сям'ёй у Гомелі. Ці гатовы пераехаць у Мінск?**

– Так, такі варыянт разглядаецца, бо я разумею, што партыя – гэта жывы механізм, праца якога патрабуе прысутнасці старшыні тут, на месцы.

**– Якія першыя крокі будзеце рабіць на пасадзе старшыні партыі?**

– Скажу адразу: мой стыль кіраўніцтва, напэўна, будзе адрозніваецца ад стылю кіраўніцтва Анатоля Лябедзькі. Я люблю глыбока капаць, аналізаваць. Сам не знаходжу і іншым не даю спакою, пакуль праца не выканана.

**– А што накont павелічэння колькаснага складу сябраў партыі? На сённяшні дзень па ўсёй краіне тры з паловай тысячы сябраў АГП. Гэта, што называецца, спісачны склад, актыўных сярод іх значна менш…**

– Так, над гэтым пытаннем мы будзем таксама працаваць. Важна, каб чалавек, прыходзячы ў АГП, ведаў: у выпадку чаго ён будзе абаронены. Напераздзе шмат працы.

**– А як наконт супрацоўніцтва з Ганнай Канапацкай?**

– Пакуль гэта адкрытае пытанне.

**– Напераздзе краіну чакаюць дзве выбарчыя кампаніі – парламенцкая і прэзідэнцкая. Якую ролю ў іх будзе адыгрываць АГП?**

– Спадзяюся, што вядучую. Я прыхільнік вылучэння адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах, таму што, на маю думку, ніводная дэмакратычная сіла ў Беларусі не здольная на сённяшні дзень правесці прэзідэнцкую кампанію самастойна.

ШТРЫХ

### Куды сыходзіць Анатоль Лябедзька?

Гэтае пытанне цікавіць многіх. Няўжо Лябедзька, аддаўшы столькі гадоў палітычнай дзейнасці, і сапраўды застанецца, што называецца, у баку ад працэсу?

*– Пакуль я пакідаю беларускую палітыку,* – заявіў "Народнай Волі" Лябедзька. *– Ніякіх запасных аэрадромаў я сабе не рыхтаваў, ёсць пэўныя ідэі, якія хацелася б рэалізаваць у Беларусі. Ці звязаны яны з палітыкай? Не, не звязаны.*

*Пакуль зацікава гаварыць пра гэта ўголас. Пачакайце восені. А зараз хочацца адпачыць. Ведаеце, колькі ў мяне было адпачынкаў за гэтыя 18 гадоў? Нуль. Калі не браць кароткачасовыя ў адзін-два дні выезды на Балтыку разам з сям'ёй.*

Дарэчы, адышоўшы ад спраў, Лябедзька збіраецца ўдзельнічаць у працэдуры вылучэння адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары, якраз-такі ў якасці кандыдата. Таксама ў кулуарах з'езда "Народнай Волі" ўдалося даведацца, што Анатоль Уладзіміравіч будзе адыгрываць адну з самых галоўных роляў у навастворанай структуры, якая будзе займацца сацыялагічнымі даследаваннямі. Ці так гэта – пакажа час.

Віталь ГАРБУЗАЎ.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Алег ТРУСАЎ: «Запрашаем на курсы»

*Выконваючы абавязкі рэктара Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча распавёў "Народнай Волі" пра тое, што іх установа з верасня распачынае курсы падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання.*

– Як вядома, у сакавіку ўніверсітэт прайшоў дзяржаўную рэгістрацыю, а ў мінулым месяцы ў Міністэрстве адукацыі адбыліся перамовы аб выдачы ўстанове ліцэнзіі на выкладанне, – кажа Алег Георгіевіч. – Ёсць ужо ў нас свая пячатка, штамп, і з верасня пачынаем падрыхтоўчыя курсы. Для гэтага не патрэбна ліцэнзія. Яна неабходна, каб вучыць студэнтаў, але пытанне збіраемся вырашыць да канца года.

**– Якія ў вас зараз будуць курсы?**

– Для вучняў старэйшых класаў (10–11-я класы), студэнтаў, а таксама для ўсіх, хто хоча ўдасканаліць свае веды і падрыхтавацца да цэнтралізаванага тэсціравання і паступлення ў ВНУ, па наступных прадметах: гісторыя Беларусі, матэматыка, фізіка, хімія, беларуская, англійская, нямецкая і (пры наяўнасці попыту) французская мовы. Курсы будуць трох- і шасцімесячныя. На курсах, якія будуць доўжыцца 3 месяцы, заняткі будуць праходзіць два разы на тыдзень па тры гадзіны на дзень. На курсах працягласцю шэсць месяцаў заняткі будуць праходзіць раз на тыдзень (па суботах) таксама па тры гадзіны на дзень. Колькасць навучэнцаў у кожнай групе плануем не больш за 10–12 чалавек. Дарэчы, ужо ёсць спіс выкладчыкаў, хаця пастаянна дадаюцца і новыя.

**– Ці дарагія курсы?**

– Па-першае, трэба сказаць, што кожны курс уключае ў сябе тры прадметы на выбар навучэнца ў любой камбінацыі (гісторыя Беларусі, матэматыка, фізіка, хімія, беларуская, англійская, нямецкая і французская мовы). І кошт любога курса – усяго 200 рублёў, хаця ў некаторых прыватных адукацыйных установах бяруць у два разы больш. Але мы спецыяльна не рабілі вялікія кошты, каб прыцягнуць людзей. Тым больш што і нашы выкладчыкі будуць зарабляць не вельмі шмат. Яны пагадзіліся працаваць больш на валанцёрскіх пачатках.

**– Што патрэбна, каб запісацца на курсы?**

– Неабходна да 26 жніўня запоўніць і даслаць заяву альбо на электронны адрас універсітэта (nhuniversitet@gmail.com) з пазнакай "Заяўка на курсы", альбо на паштовы адрас офіса ГА "Таварыства беларускай мовы".

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Сямейная пара – пад вартай

## Што кажуць людзі аб затрыманні старшыні Браслаўскага райвыканкама *Уладзіміра Дранеўскага* і яго жонкі?

На мінулым тыдні ў шэрагу афіцыйных паведамленняў пра гучныя затрыманні адно прыцягнула найбольшую ўвагу: у Браславе пад варту трапіла адразу сямейная пара – кіраўнік мясцовай адміністрацыі **Уладзімір Дранеўскі** і яго жонка **Алена** – начальнік аддзела эканомікі раённага выканаўчага камітэта. Пазней з'явілася інфармацыя, што затрыманы і адзін з намеснікаў старшыні райвыканкама.




Традыцыйна чыноўнікам інкрымінуецца карупцыйныя артыкулы – атрыманне хабару. Уладзіміру Дранеўскага таксама абвінавачваюць у перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў, а яго жонку – у хаўрусніцтве.

*– Браслаў гудзе, рэзананс ёсць,* – расказалі нам чытачы з Браслава. *– Але, мяркуючы па ўсім, Дранеўскаму людзі не спачуваюць. Кажуць, што хтосьці нават пажартаваў па-чорнаму і, калі яго "забралі", замовіў на радыё для яго песню гурта "Лесоповал".*

*Увогуле, слава пра яго ў горадзе ідзе нядобрая. Дранеўскага лічаць не тое што жорсткім кіраўніком, на погляд гараджан, ён літаральна здзекаваўся з падначаленых, каб дагаджаць і добра выглядаць у вачах вышэйстаячага начальства. Бясконца ганяў людзей на суботнікі, настаўнікаў пасылаў на фермы, у калгасы. Стаўленне да людзей у Дранеўскага было непаважлівае. І наогул, кажуць, зарваўся, ледзь не ў адкрытую браў хабар. Жонка, маўляў, кіравала ім. Але ўсё гэта чуткі.*

Уладзімір Дранеўскі быў прызначаны старшынёй Браслаўскага райвыканкама ў студзені 2015 года. На той момант яму было 38 гадоў. Ён увогуле рана пачаў кіраваць: у 33 гады ў родных Чашніках Віцебскай вобласці Дранеўскі ўзначаліў мясцовае прадпрыемства ЖКГ, для раёна гэта дастаткова важная структура, у якой працуе больш за сотню чалавек. З гэтай пасады і быў пераведзены ў Браслаў.

У 2011 годзе Уладзіміра Дранеўскага назвалі Чалавекам года Віцебшчыны – "за значны асабісты ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё Чашніцкага раёна". Але што стаіць за гэтымі агульнымі фразамі – не вядома. Наўрад ці можна сказаць, што за тры з паловай гады, якія Дранеўскі кіраваў Браслаўскім раёнам, у гэтым рэгіёне адбыўся адчувальны прагрэс. У 2016 годзе Браслаўшчына трапляла ў дзясятку рэгіёнаў Беларусі з самым нізкім заробкам. Зараз гэты паказчык таксама, відаць, не лепшы, таму што ва ўпраўленні па працы, занятасці і сацабароне райвыканкама гэтыя лічбы называць адмаўляюцца.

*– Што Дранеўскі зрабіў для раёна? Ды нічога не зрабіў,* – кажуць нашы чытачы. *– "Пастры" дрэвы ў горадзе, "пасадзіў" іх на высокі пень – ён жа з сістэмы ЖКГ прыйшоў, вось і робіць тое, што яму бліжэй. А навошта? Горад ад гэтага прыгажэйшым не стаў. Многія яго крытыкавалі за гэта. Лепш бы дарогамі заняўся, а то многія вуліцы ў Браславе як быццам разбітыя, так і засталіся.*

*Хаця, напэўна, не варта крытыкаваць чалавека, які быў на пасадзе ўсяго толькі тры з паловай года. Дранеўскі – прадукт сістэмы. Палітыка ўлады – тасаваць кадры. І атрымліваецца, што часцяком раёны ўзначальваюць дачаснікі – прыйшлі-сышлі. Яны працуюць не на карысць раёна, а каб дагадзіць тым, хто паставіў іх на высокую пасаду. Але пры гэтым, ведаючы, што век кіраўніка ў нашай краіне нядоўгі, пачынаюць паводзіць сябе як сапраўдны хапугі. Для Браслава гэтае затрыманне – не сенсацыя. У нас у Нацыянальным парку «Браслаўскія азёры» ўжо дзявяты (!) кіраўнік змяніўся. Трое ў свой час былі пад крымінальным пераследам за злоўжыванні службовым становішчам і крадзяжы. Так што затрыманне начальніка – гэта ўсяго толькі чарговы эпізод у жыцці рэгіёна. Не больш за тое.*

Што тычыцца абвінавачанняў у дачыненні да службовых асоб Браслаўскага райвыканкама, то афіцыйна на сайце МУС паведамляецца:

*"Устаноўлена, што з красавіка 2016 года па май 2018 года кіраўнік раёна сістэматычна атрымліваў хабар за вырашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю. Сума незаконнага ўзбагачэння склала не менш за 27,9 тыс. еўра. Мужчына дзейнічаў пры дапамозе сваёй жонкі – начальніка аддзела эканомікі Браслаўскага райвыканкама, якая таксама затрымана.*

*Акрамя гэтага, аператыўнікі маюць дадзеныя, што затрыманы па працягу апошніх двух гадоў незаконна запатрабаваў і атрымаў частку выплачаных прэмій работнікам выканкама, перавышаў свае службовыя паўнамоцтвы пры ажыццяўленні закупак тавараматэрыяльных каштоўнасцей.*

*Супрацоўнікамі ГУБАЗіК таксама затрыманы намеснік старшыні Браслаўскага райвыканкама, які ў перыяд з красавіка 2016 года па студзень 2018 года атрымаў ад кіраўніка хабар у суме 6,3 тыс. еўра за вырашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю".*

ТЫМ ЧАСАМ

### «Усе намеснікі на працы»

У Браслаўскім райвыканкаме інфармацыю адносна гучных затрыманняў не каментуюць. На сайце адміністрацыі, дарэчы, Уладзімір Дранеўскі па-ранейшаму значыцца старшынёй райвыканкама.

На мінулым тыдні на працоўным месцы адсутнічаў яго намеснік **Міхаіл Пліско**, і многія палічылі, што менавіта пра яго і згадвалася ў інфармацыі МУС. Аднак у райвыканкаме сцвярджалі, што Пліско ў адпачынку і выйдзе на працу ў панядзелак, 9 ліпеня. Аднак звязацца з ім учора па працоўным тэлефоне ў нас не атрымалася. Праўда, кіраўнік спраў Браслаўскага райвыканкама **Людміла Цыцэра** заявіла, што "*Міхаіл Пліско і тры іншыя намеснікі старшыні знаходзяцца на працоўных месцах*", а каму з намеснікаў прад'яўлена абвінавачанне, ён не вядома.

Марыя ЭЙСМАНТ.

ГУЧНАЯ СПРАВА

### Фядыніч і Комлік рыхтуюцца да суда

*Кіраўнік прафсаюза РЭП паведаміў "Народнай Волі", што працэс можа пачацца ўжо напрыканцы гэтага месяца.*

Нагадаем, што старшыню прафсаюза РЭП **Генадзя Фядыніча** і бухгалтара гэтага ж прафсаюза **Ігара Комліка** абвінавачваюць у няплаце падаткаў у асабліва буйным памеры. *"Зараз адвакат знаёміцца ў судзе са справай,* – кажа Генадзь Фядыніч. *– Нам дазволілі перафатаграфаваць усе матэрыялы, якія лічым неабходнымі, ніякіх забарон з гэтай нагоды не было. На працягу месяца павінны вызначыць дату судовага пасяджэння, таму, думаю, працэс пачнецца ўжо напрыканцы гэтага месяца".*

Сяргей НІКАНОРАЎ.

РЭГІСТРАТУРА

### Што паабяцалі індусы Мясніковічу і Малашку?

Днямі старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч, які курыруе пытанні беларуска-індыйскага супрацоўніцтва і міністр аховы здароўя Валерый Малашка сустрэліся з індыйскімі інвестарамі Джаянтам Каушыкам і Алокам Кумарам з кампаніі Lok-Beta Pharmaceuticals (I) Pvt. Ltd.

Па выніках сустрэчы стала вядома, што ўжо ў кастрычніку запрацуе фармацэўтычны завод у Скідзелі, дзе будуць выпускацца субстанцыі для вытворчасці лекаў ад дыябету, кардыялагічных захворванняў і СНІДу. Плануецца, што з уводам дадзенага прадпрыемства істотна ўзрасце вытворчасць айчынных дэфіцытных лекаў для патрэб унутранага рынку Беларусі і на экспарт.

Дарэчы, акрамя Скідзеля, індыйцы інвестуюць у новыя фармвытворчасці ў Бешанковічах Віцебскай вобласці і Калядзічах пад Мінскам.

Ганна ГАНЧАРЫК.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## На паперы педагогі шчыравалі да знямогі

У Полацку супраць дырэктара і некаторых педагогаў адной са школ узбуджана сем крымінальных спраў за махлярства. Настаўнікі завышалі педагагічную нагрузку, уключалі ў працэс навучання "мёртвых душ" – дзяцей, якія школу не наведвалі. Сума незаконных выплат склала 24 тысячы рублёў.

Калі чарговы педсавет
Сабраў дырэктар школы
(Педкалектыў – з адных кабет),
Ён меў настрой вясёлы.
З ягоных вуснаў для калег
Падказка прагучала:
– Заробкі вашы – смех і грэх,
Дый прэмій вельмі мала.
Міжволі апануе злосць,
І выгляд ваш пануры.
Ды ўсё ж, калегі, выйсце ёсць:
Яно ў літаратуры.
Пісьменнікаў харошых – рaць.
Але для педагога
Інструкцыяй павінны стаць
Твор, што пакінуў Гогаль.
Мікола – аўтар "Мёртвых душ".
Без лішняе пакуты
З вас кожны мецьме ладны куш,
Як Чычыкаў славуты.
Дый я папоўню кашалёк
У якасці падмогі…
Як кажуць, на ляту намёк
Схапілі педагогі.
Са школярамі справы дрэнь,
Паказчык вельмі нізкі,
Дык "мёртвых душ" у той жа дзень
Вучылкі ўнеслі ў спіскі.
Яны затым у райана
Давалі справаздачы:
У школе з ранку да цямна
Не моўкне смех дзіцячы;
У класах дзетак гэтак шмат
(Цікавяць іх заняткі!),
Прабачце, быццам парасят
У спраўнай свінаматкі;
Прыходзяць дзеткі ў чарадзе,
Як у забой шахцёры,
У школу з радасцю ідзе
І той, хто нават хворы;
Дырэктар зацікавіць змог
(Наогул ён руплівы),
І кожны школьны педагог
Вядзе факультатывы;
Выконваем вучэбны план,
Давольныя і вучні…
Ды ўсё-ткі выкрыўся падман,
Скандал адбыўся гучны.
Дырэктар круціцца, як вуж,
Як рыба на патэльні.
Наперадзе з-за "мёртвых душ"
Яшчэ й агонь пякельны…
* * *
Хоць ладны куш нашармака
Займелі педагогі,
Ды ў рэшце рэшт да следака
Іх прывялі дарогі.
І мелі вельмі бледны від,
На тварах – пот салёны,
Бо не здалі яны іспыт,
Як вучні-ахламоны.
Чарговы склаўшы пратакол,
Казаў ім дзядзька хмуры:
– Вам за сумленнасць стаўлю кол!
І па літаратуры…

### Заяц і Варона

*Байка*

Бег неяк Заяц у бары,
Ад стомы дыхаў ледзьве.
Сабе на гора, угары
Касы Варону згледзеў.
Зайздросна стала Русаку:
Няблага ўсё ж Вароне –
Сядзіць высока на суку,
Нібы на царскім троне.
Не трэба ёй натруджваць ног,
Яе не возьме трасца.
Жыццё такое, далібог,
Любому райскім здасца.
Яна на гэтым дрэве, як
За пазухай у Бога.
– А што ты робіш там? – Русак
Пытаецца.
– Нічога.
– Таксама сяду я, бадай,
Рабіць сваё не стану.
Варона каркнула:
– Сядай.
Вунь куст якраз – як пану.
Уладкаваўся ён пад куст,
Сядзіць пяньком у лісці.
І тут чуваць ігліцы хруст –
Ліса бяжыць кудысьці.
Як і сядзеў, сядзіць Касы –
Не зрушыў нават цела.
Якая ўдача для Лісы!
Яна Касога з'ела.
* * *
І не магло іначай быць:
Засведчыць нават Неба,
Што, каб нічога не рабіць,
Сядзець высока трэба…

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# Спиной к человеку

Читатель наверняка догадался, о чем автор поведет разговор. Но вначале все же о тех, кто стоял к человеку не спиной, а лицом. Кто ценил и уважал людей. И тех, кто был рядом, кто непосредственно являлся подчиненным, и тех, кто стоял там, в цеху, у станка, в конструкторском бюро – у ватмана, словом, на любом рабочем месте.

Прошло немало лет, но я как сейчас вижу перед собой Петра Войтеховича Януса – директора завода «Ударник» в те далекие шестидесятые годы. Он доверял молодым специалистам и вместе с ними активно искал возможности развития производства. Он, руководитель, тянулся к людям, а люди тянулись к нему.

А можно ли забыть Леонида Демьяновича Татаринова? От мастера вырос до директора. Сколько сил и знаний он вложил в появление на конвейере погрузчика ТО-18, на приобретение которого в очереди стояла, можно сказать, вся республика! Эта машина стала, образно говоря, кормилицей всего научно-производственного объединения «Дормаш». Леонид Демьянович беспокоился не только о выполнении планов, но в такой же степени и о благополучии работников. Не было дня, чтобы он не заглянул в цеха, не поговорил по душам с рабочими, не поинтересовался их запросами.

Не могу не вспомнить и Владимира Валерьяновича Радкевича, ставшего руководителем чуть позже. Строгим был, но справедливым. К людям относился с большой заботой. Для него важно было создать в коллективе такую атмосферу, чтобы человек шел на работу с радостью и покидал проходную с чувством, что его ценят, уважают за его труд, за старательное отношение к порученному делу. Немалая заслуга Радкевича в том, что благодаря слаженности все производственные структуры вышли на бесперебойный ритм.

Повезло нашему объединению и со следующим генеральным директором – Василием Михайловичем Шлындиковым. Решая производственные задачи, он во главу угла всегда ставил простого человека. Одинаково высоко ценил как инженерно-технических работников, так и тех, кто управлял станками, выполнял сборочные операции, обкатывал новые машины. Зная, насколько важен человеческий потенциал и чего он заслуживает, Василий Михайлович, пожалуй, первым в Беларуси предложил вариант безболезненного перехода от общественной собственности к рыночным отношениям. При нем процесс акционирования получил горячую поддержку всего трудового коллектива.

Все, кого я назвал, стояли лицом к человеку, на первый план они ставили не личные амбиции, не корыстные интересы, а интересы каждого члена трудового коллектива. Безусловно, многое они заимствовали из опыта зарубежных коллег. А каким должен быть руководитель, хозяин крупного производства, я, например, понял, когда понаблюдал за действиями главы немецкой фирмы Vogele доктора Байзе. Во время нашего посещения этой компании он предложил нам вместе выпить по чашечке кофе, и я удивился, когда в отсутствие секретарши он сам стал готовить нам бодрящий напиток. В кабинете у него висело несколько светящихся экранов, и, глядя на них, можно было знать, что происходит в том или ином цехе, на том или ином участке. Когда мы пошли знакомиться с производством, я не мог не обратить внимания на то, как господин Байзе подходил к работникам, здоровался, а со многими даже обнимался. Чувствовалось, что всех он знает поименно, со всеми у него теплые отношения. Заметив наше недоумение, он сказал: «Благодаря уму, знаниям и стараниям этих людей, мы делаем лучшие в мире асфальтоукладчики, и прежде всего их заслуга в том, что я, как владелец фирмы, стал богатым человеком. Об этом я не забываю ни на один день».

Можно, конечно, продолжать предаваться воспоминаниям, но я все же хочу перекинуть мостик в день сегодняшний, в нашу действительность. К сожалению, за последние лет двадцать на смену тем, старым, руководящим кадрам пришли люди, я бы сказал, с другой духовной начинкой. Возьмем хотя бы ОАО «Амкодор», акционером которого я являюсь. С кем ни разговаривал, не услышал, что тот же А.Шакутин сильно печется о людях. Скорее наоборот, он стоит к ним спиной… Его принцип: что-то не нравится, не устраивает зарплата – заявление на стол и получай обходную. Можно ли после этого рассчитывать на сплоченность коллектива, на качественный и производительный труд? Конечно же, нет.

22 марта состоялось собрание акционеров, на котором рассматривались вопросы, связанные с итогами 2017 года. Думаете, в зале присутствовал господин Шакутин? Не было его, как не было и на аналогичных предыдущих собраниях. Что ему до того, что когда-то люди покупали акции за кровно заработанные деньги, но за все время практически не получили ни копейки! Прибыль за прошлый год составила 4,34 миллиона рублей, а дивидендов тем, кто много лет назад вложил в производство немалые средства, – ноль. Скажете: как распорядиться прибылью, решают сами акционеры. Это в теории, а на практике совсем иная ситуация. Сложилось так, что теперь контрольный пакет акций у того же Шакутина и его ближайших соратников, все остальные фактически бесправные. В действии принцип: что хочу, то и ворочу. Захотел ввести в совет директоров своего сына – парень тут же оказался в руководящей обойме.

Не буду о личных интересах А.Шакутина и его окружении, но о том, что они не обладают теми духовными качествами, которыми обладали их предшественники, свидетельствует хотя бы такой факт. Выступая на собрании акционеров, я специально заострил внимание присутствующих на недавнем печальном событии. 10 марта умер бывший главный конструктор завода «Ударник» Николай Николаевич Юдчиц, который для предприятия и всего объединения «Дормаш» являлся Калашниковым. С его именем связана разработка того же знаменитого погрузчика ТО-18, а также погрузчиков «Д-565», «Д-566». Не знаю, что помешало нынешним руководителям объединения сказать на панихиде слова признательности этому техническому творцу, но они даже не пришли постоять у его гроба. Мне хочется, чтобы теперешние хозяева «Амкодора» понимали суть человеческих отношений, ведь они пришли не на голое место, производство создавалось многими и многими людьми, которые заслужили уважение. Я был бы рад, если бы на стене главного корпуса «Амкодора» появилась мемориальная доска в память о том же Н.Н.Юдчице.

Что ни говорите, а человеческий фактор является главенствующим во всех наших успехах и неуспехах. И кто, как не руководители, должны это четко понимать. Стоять к людям нужно лицом, а не спиной.

**Геннадий ЗИНОВЧИК,**
**акционер ОАО «Амкодор».**

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ

# Дрэўцы не паскардзяцца…

Кожны раз, калі я праязджаю па кальцавай дарозе і бачу мноства саджанцаў дзікарастучых дрэў, якія не прыжыліся, думаю пра безгаспадарчасць тых, хто іх не так даўно высаджваў, пра марнатраўства народных грошай.

Упершыню я стала сведкай безгаспадарчасці, калі папрасіла ў свайго ЖЭСа кусты для азелянення двара. Жэсаўцы атрымлівалі іх ад Фрунзенскага філіялу "Зелянбуду". Майстар пры мне забірала пасадачны матэрыял з будкі, дзе ён, падобна, зімаваў, бо карэнні выглядалі як сухія венікі. Я тады яшчэ не ведала, што дрэўцы і кусты з адкрытай карнявой сістэмай хутка перасыхаюць і гінуць. Адмочванне ў ванне нічога не дало: з дзясятка кусцікаў прыжыўся толькі адзін. Так што плён суботніка быў мізэрным.

Такі самы лік – 1:9 – мелі мы пры пасадцы атрыманых ужо ў саміх зеленабудаўцаў рослых бярозак. Паспрабуйце выкапаць дзесяць ям і прынесці са свайго паверха дзесяць вёдзер вады! Любуюся адной-адзінай выжыўшай у двары бярозкай. Затое добра сябе адчуваюць і пайшлі ў рост прывезеныя з лесу рабінкі. Нідзе не паспелі паляжаць.

Зелянбудаўцы звычайна хваляцца, што прыжывальнасць у іх дасягае 95 працэнтаў. У раёне новабудоўляў, дзе можна бачыць дрэўцы з чалавечы рост і вышэй, сапраўды назіраецца высокая жыццяздольнасць саджанцаў. Можа, таму, што іх капалі на ўласнай базе і своечасова высадзілі ў глебу. Што ж да паліву, то адно на праспекце Незалежнасці сустрэнеш палівачную машыну. Ва ўсіх іншых кутках горада і прыгарада гэта рэдкая з'ява.

На жаль, усё, што купляюць арганізацыі ў гадавальніках, – гэта кот у мяшку. Невядома, ці захоўвалася агратэхніка, калі саджанцы выкапалі, дзе і як яны зімавалі. Самі жыхары сталіцы праяўляюць дзіўную абыякавасць да раслін: ні табе паліць у спёку, ні шнурочкам падвязаць. Мамачка адвернецца, а хлапчук ламае галінкі, аберуч ухопіцца і разгойдвае стволік… Вынік звыклай экалагічнай абыякавасці. Адпаведная рэклама адсутнічае на беларускіх бігбордах і тэлеканалах, на апошніх назіраем толькі павышаную актыўнасць "Еўраопту".

Нагледзелася я на закопванне бюджэтных сродкаў і на дарогах. Вось вырашылі азеляніць тую ж кальцавую дарогу. Мінскі лясгас атрымаў ад сталічных дарожнікаў вялікі заказ на акультурванне развязак і крутых схілаў. (Не выключана, што менавіта гэтая арганізацыя "шчыравала" ў Астрашыцкім Гарадку, ля рэзідэнцыі.) Ля Пелікштаў, едучы на дачу, назірала могілкі маладога сухастою. Выявілася, што дубчыкі паторканы ў гліну. Незавостраныя планкі падаюць і згінаюць дрэўцы да зямлі. Той восенню назірала відовішча змарнаваных, кінутых рабочымі саджанцаў, якія праваляліся ўсю зіму і загінулі. Летась туды выехала група валанцёраў, мы паднялі і наноў прывязалі тое, што здолела выжыць. Хто кантраляваў пасадкі? Хто адказвае за якасць такога "азелянення"? Адны ў ведамасцях распісваюцца за зарплату, другія прэміяльныя сабе налічваюць. А дрэўцы ж не паскардзяцца…

На мой электронны зварот адказаў галоўны ляснік Мінскай лясной гаспадаркі. Яны, аказваецца, выдзялялі саджанцы і сеянцы, а пасадкамі разам з імі займаліся многія раёны вобласці. Працягласць кальцавой дарогі "Аўтадарцэнтр" падзяліў на кіламетры і размеркаваў паміж раёнамі. Працавалі на суботніках, прывозілі з сабою выкапаны на высечках пасадачны матэрыял. Цяпер канцоў не знойдзеш, хто дзе халтурыў (хоць за грошы, хоць за так). І хто будзе шукаць канцы, калі заказчыкам не цікавы вынік?

Прыглядваешся, бывае, на схілы, спрэс уторканыя калочкамі (там, мабыць, сеянцы), а раслінак не відаць. Тыя калочкі, вялікія і малыя, будуць мазоліць вока да другога прышэсця. Болей лесу перавялі, чым карысці атрымалі.

Старую кальцавую таксама паспрабавалі ачысціць ад выхлапаў – з такім самым поспехам. Сёлета ў тых жа Пелікштах ізноў насадзілі пруткоў у вялікай колькасці, з іх далёка не ўсе выпусцілі лісточкі. Мо на такой глебе, без грунту і паліву, саджанцы ў прынцыпе не растуць? Да ведама: кошт бярозы да метра – 3.50, клёна – 3 рублі, ліпа вышынёй паўтара метра каштуе 5.50. У маштабах вобласці іх пасаджаны тысячы штук. Грошыкі рэгулярна закопваюцца, а кот Базіль з лісой Алісай ціха радуюцца сваёй беспакаранасці.

Ёсць народная прыкмета: там, дзе маюць месца шалёныя заказы, шукай працягнутую лапу. Чаго б гэта ні тычылася – тратуарнай пліткі, сістэм відэаназірання, металічных сядушак у медустановах і яшчэ многага, пра што мы не ведаем.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**пісьменніца.**

ЎСМЕШКА МАСТАКА




Мінская міліцыя затрымала аднаго з супрацоўнікоў адміністрацыі спартыўна-аздараўленчага комплексу сталіцы па падазрэнні ў крадзяжы грашовых сродкаў у буйным памеры.

Чыноўнік фіктыўна аформіў самога сябе на паўстаўкі ў якасці прыбіральшчыка, але на самай справе абавязкі па ўборцы не выконваў, аднак зарплату атрымліваў.

У дачыненні да яго распачата крымінальная справа за крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў буйным памеры.

ПОСТСКРИПТУМ

# Не для меня…

## *Невеселые размышления после Дня Независимости*

Есть такая казацкая песня: «Не для меня придет весна, не для меня Дон разольется…» Пишу под впечатлением от увиденного в телевизоре утром 3 июля.

Я из тех, кого называют «дети войны». Понимаю, как важно помнить прошлое, чтить армию. Мой отец вернулся с фронта инвалидом, с орденами и медалями. Отец моего мужа погиб в мае 1944-го, участвовал в польской кампании 1939 года и финской войне. В 1944-м я попала под бомбежку. Бомбили наши. Я их за это не виню. Лес рубят – щепки летят. С того времени что-то во мне хрустнуло: детские больницы, санатории, всю жизнь имею «неврологические ноги», обмороки, головные боли, сердечную аритмию, кожно-аллергические проявления, язву желудка при обострении всего букета недугов… К 78 годам доболелась до инвалидности 1-й группы.

Смотрю на парад и «цивильное» представление. Вот любимая певица нашего президента Инна Афанасьева пританцовывает и поет вместе с нарядными детками. Диктор за кадром пафосно декламирует: «Дети – наше будущее!» Я охотнее увидела бы певицу в окружении нарядных белорусских инвалидов с чистыми волосами, ухоженными зубами (как у тех милых французских старушек в уличных кафе, про которых часто пишут журналисты) в моторизованных колясках, с красивыми тростями, ходунками на колесиках… И пусть бы диктор сказал, как мы чтим не только ветеранов, но и детей войны, как заботимся о наших немощных отцах, бабушках… Сколько пандусов, поручней, сидений и подъемников для ванных комнат можно было настроить за те деньги, что пошли на нарядное представление и блестящие металлические сооружения для оборудования «амфитеатра» для зрителей!

Сейчас я инвалид 1-й группы, колясочник. Без посторонней помощи не могу сесть в коляску, не могу себя обслужить в самых простых потребностях. Есть у нас миф о льготах для инвалидов 1-й группы. Но «голубые» льготные рецепты дают только на лекарства типа фурацилина ценой до 2 рублей. Все, что выше, – по полной цене. (По карточкам «Белфармации» бывают скидки на 10%.) Цены – заоблачные. Купишь, а лекарство не пошло. Прямой связи с лечащим врачом нет. Назад лекарства не принимают. (Тут бы организовать нечто вроде государственной медицинской комиссионки!) Накапливаются горы ненужных лекарств.

Мы с мужем – бывшие учителя. Запасов на старость не накопили. После 75 лет получили надбавку к пенсии. Вместе получаем теперь каждый месяц 420 у.е. За июнь на двоих мы потратили на таблетки и мази 314 рублей (157 у.е.). Родственников, которые могут помочь, не имеем. Большинство из того, что предписывается инвалиду как социальная реабилитация, – платное. Противопролежневый матрац (со скидкой) – 156 рублей, прикроватные поручни, опоры в ванной, сиденье и прочее – каждая услуга с установкой от 20 рублей и выше. Сиделку не оплатишь.

Бесплатные физиотерапевтические услуги в поликлинике фактически исключаются: в подъезде нет пандуса для въезда и выезда инвалидной коляски. Государственное ЖКХ Центрального р-на г.Минска отказывается от установки, т.к. *«ступеньки в подъезде расположены под большим углом»*. Обещают при наличии финансовых средств рассмотреть в 2019 году вопрос о монтаже подъемника (фактически параллельный мини-лифт). Похоже, работники ЖКХ никогда не видели пандусы с большим углом наклона в подземных переходах и не слышали, что бывают небольшие откидные рамы с рельсами шириной 3–4 см или телескопические шины весом менее 20 кг и длиной 1,5 метра, которые обещают сделать частные мастера из интернета за умеренную плату. Неужели государственный подрядчик не может сделать нечто подобное, что дешевле в разы того обещанного подъемника? Или они не понимают, что коляску, которая вместе с больным потянет минимум на 80 кг, должны будут выносить под тем же опасным углом два человека. А их еще надо найти! И согласятся ли жильцы дома на установку того подъемника? Я уже не говорю о проблемах посадки колясочника а общественный транспорт. Проезд-то у нас бесплатный, как и в электричках, но мы этой льготой по понятным причинам не пользуемся.

Бесплатные медперевозки для инвалидов-колясочников на физиотерапию в поликлинику делаются только по заключению специалиста. (Для неинвалида одна медперевозка от кровати до врача в один конец стоит 35–40 рублей). Из-за своей бедности поликлиники предпочитают «таблеточное» лечение. Так проще. Рецепты выписывают быстро. Покупай и увядай, как овощ. Не беспокоишь – и ладно.

Наш профильный врач – невролог. Невролога (как и дерматолога, аллерголога, психиатра, квалифицированного травматолога) в поликлинике нет. Говорят, невролог третий год в декретном отпуске. Ждут, пока вернется. По заявке участкового терапевта могут вызвать специалистов из диспансеров или других поликлиник. Меняющиеся эксперты – беда. Каждый новый врач вносит свои поправки, не зная детально истории болезни. Приглашенные врачи приходят только дней через десять. А с участковым терапевтом еще надо связаться, чтобы он «заказал» нужного специалиста со стороны. Аллерголога поликлиника не обеспечивает вообще. Так и живем.

Льгот на квартплату не имеем. Муж не инвалид, хотя является хроническим гипертоником, «преддиабетиком» по показаниям уровня глюкозы да еще имеет титановые протезы в обоих плечевых суставах. После оплаты лекарств, услуг ЖКХ и «Белтелекома» на еду, одежду и «культурный досуг» у нас остается немногим больше 200 рублей в месяц. А если вдруг испортился холодильник или износился водопроводный кран?

Материальная помощь нам «не положена», так как моя пенсия больше, чем 250 рублей. Возможная денежная помощь пенсионерам Центрального района г.Минска (социальный центр на ул.Красной получает субсидии для инвалидов поквартально) оказывается при предъявлении всех справок и чеков на лекарства – в порядке живой очереди и при условии, что такие средства у администрации района будут в соответствующем квартале.

Остается только вспомнить мрачную шутку, что нам, ветхим пенсионерам, скоро дадут льготу переходить улицу на красный свет.

Пишу под псевдонимом (мой адрес и фамилия есть в редакции), потому что стыдно перед знакомыми. Начнут предлагать помощь. Лучше было бы, если бы это сделало государство, которое принимало от нас в течение 40 лет отчисления на социальное страхование. Не называю и номер поликлиники (мы относимся к Центральному району) – мне же с ними и дальше иметь дело. До самой смерти. Они в общем-то добрые, но что они могут? В холодное время года и талоны на прием у терапевта раздаются за неделю вперед. Я приветствовала бы, если бы поликлинике выделили ставки недостающих врачей. Стоит только сократить пару площадных представлений да спортивных праздников. Можно, конечно, урезать расходы и на военные цели, содержание бюрократического аппарата, структур БРСМ и прочих.

Дикие племена и некоторые античные цивилизации сбрасывали немощных соплеменников в расщелины скал, умертвляли ударом по черепу или топили в водоемах. Мы живем в другое время и не можем уподобляться дикарям-предкам. Мы позволяем своим несчастным умирать в тихой меланхолии. Браво, гордая социальная держава Беларусь!

**Вера РЫЖИКОВА.**

**P.S.** Две недели назад «Беларусбанк» сделал «подарок» инвалидам: начал взыскивать комиссионный сбор при перечислении денежных средств за платные услуги на расчетный счет Комитета по труду, занятости и социальной защите.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–53.)*

## Па паліцэйскіх не страляць!

Партызаны і паліцэйскія ўвялі вельмі заганную практыку ў дачыненні да цывільнага насельніцтва: жорстка караць яго за падтрымку, супрацоўніцтва з адным з бакоў. Узнікла велізарная небяспека падзелу беларускага народа на два дыяметральна процілеглыя лагеры. Акупантам было выгадна такое размежаванне. Ніякіх канкрэтных захадаў па прадухіленні яго не рабіла і Масква. У выніку Беларусь несла неапраўдана вялікія людскія страты сярод цывільнага насельніцтва, непараўнальна большыя, чым партызаны і паліцэйскія, разам узятыя. Нямецкія ўлады гэта нiколькі не хвалявала, а вось хоць і па запозненым указанні Масквы партызаны павінны былі ўхіляцца ад баявых сутычак з паліцэйскімі і немцамі, калі такое магло весці да масавай гібелі мірных жыхароў. Такі апраўданы паварот у вядзенні партызанскай барацьбы закрануў і Магільнае.

Напрыканцы 1943 года, а тым больш на пачатку 1944-га, партызаны пачалі даволі актыўна дзейнічаць і на правабярэжжы Нёмана. Акупанты ўжо не адчувалі сябе тут у такой бяспецы, як гэта было раней. Пагадзіцца ж з такой стратай свайго ўплыву яны не збіраліся, таму ў гэтай мясцовасці пачасціліся баявыя сутычкі паміж двума варагуючымі бакамі. Калі партызанам даводзілася ў чымсьці саступіць на правабярэжжы Нёмана, усё-такі яны сюды рэгулярна пасылалі сваіх разведчыкаў, якія вялі такую патрэбную працу ў цесным кантакце з мясцовым насельніцтвам, заўжды мелі ад яго надзейную падтрымку. У такіх умовах працавалі разведчыкі з жыхарамі Замосця.

У адзін з веснавых дзён 1944 года партызанскаму разведчыку (прозвішча не памятаю) данеслі, праўда, са спазненнем, што ў Замосце вось-вось уварвецца невялікая група паліцэйскіх. Ён кінуўся ратавацца ўцёкамі ў Магільнае. У партызаны заслалі яго з-за лініі фронту пасля адпаведнай падрыхтоўкі; вызначаўся фізічнай сілай, уменнем весці бой. Бег па старой грэблі з вялікай хуткасцю. У гэтым паліцэйскія прыкметна саступалі яму, але беглі таму, што разлічвалі, ён жа не кінецца ў шырокі з-за веснавой паводкі Нёман. Памыліліся. Калі да ракі заставалася каля пяцісямі метраў, адважны разведчык збег з грэблі і, не распранаючыся, з аўтаматам за спінай, кінуўся ў ваду. За гэтымі падзеямі сачыла шмат магільнян, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў, смела бегаючы па беразе Нёмана. Прысутнічала і невялікая колькасць партызанаў, прычым і такіх, што ведалі разведчыка. Дабегшы да канца грэблі, паліцэйскія ва ўвесь свой рост, нікога не асцерагаючыся, адкрылі агонь па партызане. Не страляў толькі старшы з іх групы, трымаючы ў руках пісталет. Кулі з пляскам давалі нырца ў ваду то справа, то злева ад галавы ўцекача. Ён ужо пераплыў больш за палову. Калі да берага заставалася 10–15 метраў, старшы з паліцэйскіх ва ўсё горла закрычаў: “Стойце!” Навёў на цэль рулю пісталета і з першага стрэлу трапіў у галаву. Партызан адразу пагрузіўся ў ваду. З магільнянскага берага Нёмана чуліся і такія словы старшага з паліцэйскіх:

– Што вы хочаце, каб у Вуздзе з маіх плеч галаву знялі?!

Дасягнуўшы сваёй мэты, паліцэйскія няспешна падаліся ў Замосце.

Людзі па-рознаму рэагавалі на тое, што на іх вачах адбывалася ў гэты дзень. Большасць ўпрошвала партызанаў не страляць у паліцэйскіх, каб акупанты не паўтарылі бамбавання Магільнага. Між іншым, і самі партызаны не ставілі сабе за мэту ўступіць у перастрэлку з паліцэйскімі, ведаючы, якія гэта наступствы будзе мець для і без таго так моцна спакутаваных жыхароў Магільнага. Па-свойму рэагавалі на тыя падзеі мы, дзеці. Гразілі паліцэйскім кулакамі, абзывалі іх грубымі (цэнзурнымі) словамі, на што не было аніякай рэакцыі з іх боку. Яны ні разу не папужалі ні дарослых, ні дзяцей стрэламі над іх галовамі. Увесь позірк скіроўвалі толькі на партызана.

Паліцэйскія яшчэ не дайшлі да Замосця, а людзі ўжо пачалі рыхтавацца падняць тапельца з дна ракі і выцягнуць на бераг. Марудзіць ніяк нельга было, бо воды Нёмана маглі перакаціць цела партызана на далёкую адлегласць ад месца здарэння. Узначаліў каманду добраахвотнікаў-выратавальнікаў самы дасведчаны ў Магільным рыбак і ўвогуле здольны на ўсе рукі Костусь Цыбульскі (па-вулічнаму Ахрэмчык). Ён хутка спусціў на ваду чайку і доўгім бусаком пачаў абмацваць дно. На дапамогу прыйшла і яшчэ адна чайка з двума чалавекамі. Не знайшоўшы партызана на месцы, дзе яго напаткала куля, Ахрэмчык накіраваў чайку да берага ў тое месца, дзе раслі кусты лазы. Гэтае месца берага выбраў таму, што ў той дзень Нёман свае воды якраз імкліва нёс да яго. Рыбак не памыліўся: бусаком намацаў труп. Памагатых папрасіў бусакі ўткнуць у дно ракі так, каб цела не рухалася па цячэнні, а сам стараўся дзейнічаць з такім разлікам, каб добра зачапіцца за адзенне, не пашкодзіўшы цела. Хоць і цяжка давалася ўсё гэта, аднак не мінула і гадзіны, як забітага партызана выцягнулі на бераг. На наступны дзень адбылося пахаванне з удзелам партызанаў. Пахавалі на ўскрайку Магільнянскіх могілак, каб лёгка было знайсці месца спачыну сапраўднага героя-партызана. Пасля вайны яго парэшткі змясцілі ў агульную партызанскую брацкую магілу.

Гэтае здарэнне мо цэлы месяц не сходзіла з вуснаў магілян. Былі сярод іх і такія – пераважна тыя, чые хаты згарэлі падчас бамбавання ці хто страціў сына ў барацьбе з акупантамі, – што асуджалі партызанаў за іх пасіўнасць. Праўда, такія патрыёты знаходзіліся ў меншасці. Заўважу, што партызанаў за такое бяздзейнічанне не абвінавачвала і іх начальства. Пасля апісаных падзей акупанты не ўжылі ніякіх спецыяльных санкцый супраць Магільнага, але ў час сваіх чарговых карніцкіх аперацый не раз урываліся ў яго і толькі з-за адсутнасці баёў з партызанамі ці ў выніку своечасовых уцёкаў людзей у лясы мястэчка не зведала якіх-небудзь сур’ёзных чалавечых ахвяр.

## Нетыповы выпадак

Нямецкіх акупантаў справядліва абвінавачваюць у лютай нянавісці, нечуванай жорсткасці ў дачыненні да цывільнага насельніцтва заваяваных краін. На руках карнікаў кроў нават ні ў чым не вінаватых дзяцей, а таксама старых людзей, якіх і без таго вось-вось павінна была напаткаць непазбежная для такога ўзросту смерць. Перанесці суровы рэжым акупацыі не ўдалося і многім дзецям мястэчка Магільнае, прычым не толькі яўрэйскай нацыянальнасці. На фоне ўсіх гэтых зверстваў зусім нязвыклым падаецца выпадак абыходжання аднаго з немцаў з маім самым малодшым братам – пяцігадовым Толем, які запаў мне ў памяць.

Хоць і вельмі рэдка, усё ж Магільнае і ў 1943 годзе, калі яно ўжо знаходзілася ў партызанскай зоне, карнікі выбіралі дзеля свайго часовага расквартаравання. Арганізаваўшы вылазку на партызан, звычайна ў раён Капыльшчыны, яны вярталіся ў Магільнае, каб трохі адпачыць перад чарговай акцыяй. Пры выбары для начлегу хаты карнікі ніколі не абміналі нашу, хаця ў ёй жыло шэсць чалавек. У гэтым заслуга нашага таты, які ў 1930 годзе пабудаваў даволі дыхтоўны для таго часу дом. Заўважу, што няпрошаныя госці ніколі не зганялі нас з ложкаў, а ўкладваліся на падлогу, паслаўшы на яе добры пласт саломы. Трое немцаў, якія начавалі ў нас на пачатку зімы 1943/1944 года, добра запомніліся тым, што адзін з іх вельмі пасябраваў з нашым Толем, частуючы яго рознага кшталту прысмакамі. Ахвотна браў Толю на рукі, прыгаворваючы незразумелыя ні яму, ні нам словы. Аднак мы са старэйшай сястрой Лідай, скончыўшы ў гады акупацыі адпаведна шэсць і сем класаў, у якіх такі добры ўпор рабіўся на вывучэнне нямецкай мовы, усё-такі разабраліся, што гэты немец быў настаўнік па прафесіі і меў дома пяцігадовага сына, таму так цягнуўся да Толі, запрашаў яго прылегчы разам на засланую саломай падлогу, і той згаджаўся. Аднойчы, калі гэты немец паказваў нам розныя фотаздымкі свайго сына, вочы яго напоўніліся слязамі, і здавалася, што ён вось-вось заплача. Калі на досвітку далі каманду збірацца ў дарогу, той вельмі ветлівы з намі немец хутка накіраваўся да Толевай калыскі і на развітанне пацалаваў яго, соннага, у шчаку, а маме падаў руку. Мы адразу ж пачалі зносіць з падлогі ў гумно салому і ў тым месцы, дзе спаў “гуманны” немец, знайшлі гранату. Я выскачыў на вуліцу, каб сказаць яму пра знаходку, але ўжо было позна. Гранату я схаваў у гумне.

Праз пару дзён у Магільным ізноў гаспадарылі партызаны. Калі ў хату зайшоў дзядзька Валодзя, мы з сёстрамі сталі хваліцца, які добры быў у нас немец, як ён любіў гуляць з Толем, якімі песціў яго пачастункамі. Дзядзька не даў нам шмат гаварыць і запярэчыў:

– А вы не думаеце, што гэты хвалёны вамі немец па загадзе камандзіра ўжо спаліў не адну хату разам з маленькімі дзецьмі? Учыніў бы ён такую расправу і з вамі, каб толькі далі на гэта каманду. Умовы вайны вельмі жорсткія, яны і немцаў, і нас, партызанаў, прывучылі ісці на любыя чалавечыя ахвяры. А жаданне вашага “добрага” немца пагуляць з Толем выклікалася не больш як толькі журботнымі, нялёгкімі ўспамінамі пра свайго роднага сына, вялікімі сумненнямі, ці давядзецца яшчэ калі-небудзь сустрэцца з ім.

У адказ дзядзьку мы не прамовілі ні слова. Цалкам пагадзіліся з ім. Дый былі выхаваны так, што ніколі не пярэчылі дарослым.

Не забыўся я паказаць дзядзьку забытую немцам гранату. Ён не пажадаў узяць яе сабе, а вось як карыстацца ёю – паказаў. Калі-нікалі, як па трывозе ўцякалі ў лес, я браў гранату з сабою, але выкарыстаць яе давялося зусім не ў абарончых мэтах. Не жадаючы далей трымаць гэты від зброі ў сябе, я прапанаваў яе магільнянскаму партызану Тодару Лукашэвічу, які перад вайной кіраваў мясцовай хлебапякарняй, а мой тата працаваў там рабочым. *(Тодар Лукашэвіч пакінуў вельмі добрыя ўспаміны ў магілян. У цяжкія пасляваенныя гады ён працаваў у Баранавічах і меў прамое дачыненне да хлебапякарнай вытворчасці. Па яго распараджэнні з Баранавічаў у Магільнае даволі часта пасылалася машына з хлебам, што вельмі вітала кіраўніцтва Вуздзенскага раёна, паколькі на працягу многіх гадоў мястэчка зведвала востры дэфіцыт гэтага асноўнага для беларусаў прадукту харчавання).* Узяць ад мяне гранату ён згадзіўся, але толькі дзеля глушэння ёю ў Нёмане рыбы. Выканаўцам той акцыі, як уласнік гранаты, стаў я, хаця на гэта прэтэндавалі старэйшыя за мяне хлопцы. Гранату кінуў у дакладна вызначанае партызанам месца, але на паверхню вады не выплыла ніводная рыбка. Аперацыя не ўдалася. Гэта была, бадай, мая адзіная злачынная акцыя супраць Нёмана. І як добра, што ад разрыву гранаты не было прычынена аніякай шкоды рыбнаму багаццю Нёмана!

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

# «Окололюбви», или Театр времен Уильяма Шекспира



По приглашению руководства Национального академического театра имени Янки Купалы известный российский режиссер Андрей ПРИКОТЕНКО работает над премьерой будущего сезона – постановкой пьесы «Сон в летнюю ночь» Уильяма Шекспира.

Питерский режиссер славится остро-пряными интерпретациями классики и вообще вольным с ней обхождением. Тем не менее он имеет несколько респектабельных наград за свои постановки: национальную российскую театральную премию «Золотая маска» и высшую театральную премию Санкт-Петербурга «Золотой софит». В разные годы Прикотенко ставил спектакли в таких известных театрах, как БДТ, Театре на Литейном, московских Театре сатиры, Ленкоме, Рижском русском театре имени Чехова. Теперь Андрей Михайлович Прикотенко – главный режиссер Государственного драматического новосибирского театра «Старый дом».

**– Андрей Михайлович, известно, что с классикой у вас сильные связи, хотя критики и подтрунивают, называя вас ее совратителем. На этот раз вы тоже преподнесете нам собственную интерпретацию «по Шекспиру»?**

– У меня довольно сложное отношение к понятию «классика». Иногда я не понимаю, что люди вкладывают в это слово?

**– Наверное, более-менее строгое следование тексту драматурга.**

– А вы знаете, что многие свои пьесы Шекспир не записывал или записывал гораздо позднее? Потому что театры в то время вероломно относились к драматургии, они крали друг у друга тексты, охотились за ними. Театр был очень востребован. Представьте: нет ни телевидения, ни радио, ни кино, ни телефона – ничего нет. Куда пойти? В театр! Он очень популярен, влияет на умы. И актеры воруют пьесы и перепродают другим театрам. Пьесы Шекспира никогда не ставились так, как они были написаны, каждый раз – импровизация. И вообще, если бы мы смогли оказаться на спектаклях любого театра Лондона конца XVI века, то, уверяю вас, были бы возмущены вызывающим общением актеров с публикой, шокированы ненормативной лексикой, которую употребляли в то время в театре со сцены. Поэтому – что такое классика? Получается, что это наше представление о том, что мы когда-то где-то увидели. Причем представление у каждого свое. Нормы не существует. Поэтому мне сложно вписаться или не вписаться в рамки, которых фактически не существует.

**– А вас будоражит версия о подлинном авторе пьес Шекспира? Кто действительно их писал и кто подписывался под ними?**

– Я общался с серьезными шекспироведами. Они рассказали, что примерно через сто лет после смерти драматурга он вдруг стал очень популярен в Европе и что именно тогда и возникла литературная традиция завуалированности его имени, существовавшая исключительно для того, чтобы можно было хорошо продавать пьесы. На самом деле Шекспир был Шекспиром. Возьмите книгу известного американского шекспироведа Сэма Шенбаума – там все-все написано. Никаких лордов, аристократов за спиной у драматурга не было. Все это конспирологические версии.

**– Какой вы преподнесете нам пьесу «Сон в летнюю ночь»? Плач по любви? Или, может быть, нагрузите ее политическим подтекстом?**

– Политическим точно нет. Это будет спектакль о любви, только не плач, а гимн. Что о любви плакать?

**– Ну да, плач – это чаще уже о семейной жизни. Но в пьесе людьми бессовестно манипулируют волшебники, герои постоянно меняют своих партнеров. Нехорошо…**

– Героев заколдовывают эльфы, а люди ни при чем, они как раз ведут себя последовательно. Люди как раз на высоте: если любит, то до конца. Его заколдовали, он влюбляется в другого – тоже до конца! Получается, человек верен своему чувству.

**– А сами вы к любви относитесь как?**

– С большим уважением. И даже страстью. Человек должен любить.

**– Театр сможет представить «Сон в летнюю ночь» на фестивале «Золотая маска»?**

– Думаю, да – в номинации «Лучший зарубежный спектакль». Будем делать все, что от нас зависит.

**– Судя по пресс-релизу, вы потребовали от театра огромных вложений на технические новации для спектакля: голография, генеративная медиаграфика, дрон и еще какие-то новые слова.**

– Ничего не требовал! У вас очень хорошие возможности. Ваш театр оснащен по последнему слову техники. У него такой парк аппаратуры, что может позавидовать любой российский театр: и проекторы, и камеры, и серверы. И сопутствующие устройства, которые необходимы для того, чтобы создавать серьезные медиаэффекты. Все есть в наличии для нашего спектакля. Специально никто ничего не приобретает. А от дрона мы как раз отказались. Но сценография будет очень насыщенная.

**– Вы репетируете примерно месяц, какую характеристику вы дали бы нашей труппе?**

– Очень хорошая, сильная труппа у Купаловского театра. Замечательные артисты, я удивлен. Красивые, талантливые. Артисты очень хорошо поют и двигаются.

**– У Национального театра имени Янки Купалы – традиции! И, поверьте, особое отношение зрителя, такое, знаете, требовательно-родственное. Купаловский, он нам как отец родной, – один-единственный. Вы, возможно, не поймете нашего трепета по отношению к этому театральному дому, у вас и территория огромная, и талантов океан.**

– У вас же столько театров в городе…

**– Конечно! Но Купаловский – он другой, он стоит особняком в наших душах. Поэтому многие зрители довольно болезненно воспринимают в его стенах любых приглашенных режиссеров из-за рубежа. Причем заранее болезненно: мало того, что главный белорусский театр открывает следующий сезон Шекспиром, так еще и ставит его не свой, а российский режиссер.**

– Мои корни из-под Гомеля, отец там родился в деревне, в Беларуси по-прежнему живут некоторые близкие родственники отца, мы переписываемся. А моя мама, к сожалению, толком не знает своей малой родины, кроме общих сведений: север Львовской области. Она потеряла родителей, когда ей было четыре года, во время войны.

**– Скажите, а работа с другим языком – белорусским – потребовала от вас, режиссера, определенного преодоления? Может быть, понадобился переводчик?**

– Зачем же? Постепенно я стал слышать и, мне кажется, понимать белорусский язык: он очень мелодичный, поэтический. Конечно, перевод Алеся Рязанова очень хороший.

**– Уже год, как вы работаете главным режиссером в Новосибирском государственном драматическом театре «Старый дом». В вашем характере появились новые черты? Были свободным художником, стали начальником. И, может быть, деспотом?**

– Может быть. Ни один деспот не скажет о себе, что он деспот. Мы со стороны себя ведь не видим и не чувствуем изменений, которые с нами происходят, если только не случилось что-нибудь глобальное. Лично мне кажется, что я не изменился. С чего бы это?

**– А каково время действия в вашем спектакле?**

– Такое же условное, как у автора. В пьесе что, оно конкретно? Просто написано – Афины. Они, слава Богу, стоят до сих пор.

**– А почему Шекспир перенес действие пьесы в Афины, как вы думаете?**

– Представьте себе среднего жителя Лондона конца XVI века: для него Афины – это неизвестно где. У черта на рогах. То есть там, где может случиться абсолютно все, что происходит в пьесе «Сон в летнюю ночь». И вообще, Шекспир в своих произведениях все время путешествует по миру. Например, у него в пьесе «Буря» корабль отплывает из города Милана – вы знаете об этом? И никому в голову не приходило спросить у автора об этом географическом недоразумении. Люди в то время были не обременены информацией, это во-первых. Во-вторых, у них в голове существовала четкая картина мироустройства: боги живут на небесах, черти – под землей. Человек между ними. Такая обыкновенная иконопись, и другой информации о мироустройстве человек не имел. Англичанин не читает книг, он ходит в церковь и видит мир на иконах, фресках, мозаиках. Поэтому где Афины – не имело значения для зрителя шекспировского времени. В неведомом мире – и все. Больше ничего не надо, чтобы поразить хрупкое сознание человека конца XVI века. И даже через сто лет после Шекспира, во времена Моцарта и создания им оперы «Дон Жуан», зритель все еще тот же самый. Впервые в этой опере композитор применил «страшные» приемы в изображении ада – он использовал семь тромбонов одновременно. А воображение людей еще до такой степени наивно и хрупко, что на спектаклях некоторые от этих звуков падали в обморок от страха. А человек шекспировского театра еще более девственен в смысле чувств. Нам это не понять, но, бывало, люди падали в обморок, когда звучал монолог Гамлета «Быть или не быть». Да, такое нередко случалось на спектаклях.

**– Вы сами бывали в Лондоне?**

– Да, и видел шекспировский «Глобус». Знаете, по габаритам он чем-то похож на Купаловский театр.

**– Но зритель уже другой, другой…**

**Елена МОЛОЧКО.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Валерый ЛЕКТАРАЎ: «Трэба бачыць, што купляеш»

*Дзіцячы трэнер па біятлоне распавёў “Народнай Волі”, ці патрэбны беларускай зборнай спартсмены з іншых краін.*

Навіна пра тое, што вырашылі завяршыць кар’еру лідары жаночай зборнай па біятлоне **Дар’я Домрачава** і **Надзея Скардзіна,** стала для некаторых трэнераў і спартыўных функцыянераў калі не шокам, то самай сапраўднай галаваломкай. Кім запоўніць нішу? Хто ў камандзе возьме на сябе лідарскія функцыі? Ці не атрымаецца, што жаночая зборная можа стаць падобнай на мужчынскую, якая выступае так, што за сезон і ўспомніць няма чаго?

Выйсце было знойдзена па сваёй прастаце проста геніяльнае! Стала вядома, што зараз на праглядзе ў зборнай Беларусі знаходзяцца тры расійскія біятланісткі: **Анастасія Расказава, Кацярына Бех** і **Аксана Маскаленка**. Таксама каманду можа папоўніць і адзін расійскі біятланіст – **Кірыл Стральцоў.**




– Усе мы разумеем, на якім узроўні будзе жаночая зборная пасля таго, як яе пакінулі Дар’я Домрачава і Надзея Скардзіна, – кажа **Валерый ЛЕКТАРАЎ**, трэнер Сенненскай дзіцячай спартыўнай школы па біятлоне. – Хутка і жаночыя гонкі будзе глядзець нецікава. Таму, відаць, кіраўніцтва федэрацыі і вымушана пайсці на такі крок, як запрашэнне ў каманду замежных спартсменаў.

**– Гэта, натуральна, прасцей, чым выхаваць сваіх…**

– Безумоўна, трэба і сваіх абавязкова падцягваць, але спартыўная міграцыя – гэта натуральны працэс у сусветным спорце. Расіянка Анастасія Кузьміна заваёўвае залатыя алімпійскія медалі для Славакіі, і ні ў кога ніякіх пытанняў з гэтай нагоды не ўзнікае. Тая ж украінка Алена Зубрылава таксама добра выступала за нашу нацыянальную каманду, што ў гэтым дрэннага? А свае няхай вучацца ў больш вопытных спартсменаў ды таксама раскрываюцца.

**– А не атрымаецца, што “легіянеры” будуць займаць у камандзе месцы, якія можна было б аддаць беларускім спартсменам?**

– Канкурэнцыя – гэта таксама добра, але тут, як мне падаецца, праблема крыху ў іншым. У нас апошнім часам расійскія біятланісткі, якім давалі беларускія пашпарты і бралі ў зборную, на спаборніцтвах практычна нічога не паказвалі. 70–80-я месцы – гэта нармальна? Навошта было наогул трымаць такіх у камандзе? Лепшы вынік расіянкі Анастасіі Каліна за тры гады ў зборнай Беларусі, калі не памыляюся, 50-е месца на этапе Кубка свету ў індывідуальнай гонцы. Дык для чаго тады падпісваць доўгатэрміновыя кантракты са спартсменамі такога ўзроўню?

**– А які, на ваш погляд, быў бы аптымальны варыянт?**

– Я не працую ў штабе зборнай, але, як мне падаецца, з “легіянерамі” трэба складаць кароткатэрміновыя кантракты – на год. А далей глядзець па выніку. Няма яго – да пабачэння! У звязку з гэтым павінна быць і аплата. Адным словам, неабходна больш гнуткая сістэма ў працы са спартсменамі, якіх запрашаем з-за мяжы. І каб гэтыя запрашэнні не наносілі ўрон сваім спартсменам. Калі ўжо запрашаць, то перспектыўных. Трэба бачыць, што купляеш.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СУД!

# «Дзедаўшчына» на заставе

## У Гомелі праходзіць суд над салдатамі, якія здзекаваліся з навабранцаў.

### Бязвусыя «дзяды»

У жалезную клетку Гомельскага раённага суда міліцыянты-ахоўнікі завялі двух "дзядоў" – 20-гадовага кіроўцу **Рамана Гладкага** і 22-гадовага **Сяргея Гузеева.** Першы родам з-пад Мінска, другі – з Бабруйска. Служылі яны ў вайсковай часці №1242 на памежнай заставе "Новая Гута" з пачатку 2017 года і сёлета замест "дэмбеля" апынуліся ў СІЗА.

Невысокага росту, танклявыя юначыя постаці – ну зусім не выглядаюць гэтыя маладзёны "дзядамі", гэткімі "тэрмінатарамі", здатнымі да здзекаў і жорсткага падпарадкавання маладога армейскага папаўнення.

Вонкавае ўражанне, аднак, пераважвае група пацярпелых. Іх ажно сямёра. Большасць – рослыя, дужыя. Некаторыя па ўзросце нават старэйшыя за так званых "дзядоў". Але акурат у дачыненні да гэтых салдат больш позняга прызыву і ўчыняўся на заставе гвалт.



«Дзяды» Раман Гладкі і Сяргей Гузееў.

### Ілжывае лідарства

Прадстаўніца пракуратуры зачытвае ў судзе строгія фармулёўкі з абвінаваўчага заключэння на падставе часткі 2, артыкула 443 Крымінальнага кодэкса – "Гвалт і здзек з ваеннаслужачых пры адсутнасці адносін падпарадкаванасці". Аказваецца, яфрэйтар Гузееў і радавы Гладкі, каб прадэманстраваць сваю «ўяўную перавагу» і «лжывае лідарства», розным чынам прыніжалі маладых, білі, прымушалі сотні разоў адціскацца, ды так, што некаторыя з іх гублялі прытомнасць. Нават каб ісці спаць, маладыя шарагоўцы мусілі атрымаць дазвол ад "дзядоў". Так старослужачыя падтрымлівалі "вайсковыя традыцыі", якія ўрэшце і прывялі іх на лаву падсудных.

### «Паводле статута» ці «паводле дзеда»

Пацярпелы **Вадзім Шаўчэнка** да прызыву ў войска скончыў Магілёўскі педуніверсітэт імя Куляшова, стаў настаўнікам гісторыі і нават паспеў цэлую навучальную чвэрць папрацаваць у школе.

У судзе ён распавёў, што прыехаў на заставу сёлета ў студзені з яшчэ чатырма памежнікамі свайго прызыву.

*"Сустрэў нас яфрэйтар Гузееў. Паказаў, дзе што знаходзіцца на заставе: дзяжурная часць, сталоўка. А пасля заводзіць нас у спальнае памяшканне і пытаецца: "Паводле чаго будзеце жыць?" Я адказаў: "Паводле дзеда".*

Аказваецца, гэта была традыцыя і так мусіў адказваць навабранец.

*"Дакажы", – запатрабаваў Гузееў. Я падняў і скрыжаваў рукі перад ілбом, далонямі вонкі да яфрэйтара – прыняў позу "лася". Гузееў і стукнуў ніжняй часткай далоні ў перакрыжаваныя перад ілбом рукі".*

Потым усё гэта рабіў і радавы Гладкі. Рытуальнае пасвячэнне ў жыццё "паводле дзеда" прайшоў кожны навічок заставы. Гэта быў пачатак.

### Поза «лася»

Здзек з маладых меў розныя формы. У іх ліку былі "прашары" – своеасаблівыя "інтэлектуальныя" віктарыны перад сном па прынцыпе "пытанне–адказ". Маладым належала "адбіцца".

Падсудныя называлі гэта "чорным армейскім гумарам". Да прыкладу, пыталіся: "Чым адрозніваецца памідор ад трактара? На чым стаіш? Што за акном? Куды трапіў?" На апошняе пытанне кемлівы маладзён мог адказаць: "На дыскатэку". "Дзяды" паблажліва ківалі і камандавалі: "Танцуй". За няправільныя адказы давалі "лася". Бывала, і кулаком ды яшчэ і з нецэнзуршчынай.

Старэйшыя па тэрміне службы строга трымалі парадак, надзяліўшы сябе правам даваць заданні, караць і мілаваць. Іхняе слова, па сутнасці, прыраўноўвалася да загаду армейскіх начальнікаў.

23 студзеня радавы Гладкі загадаў маладзейшаму пачысціць дарожкі ад снегу і наледзі. Так захацелася. У маладога не атрымалася, бо заняты быў днём на службе іншымі справамі. Увечары перад адбоем "дзяды" зладзілі маладым "пракачку". Калектыўную. Са сталовай выклікалі нават тых, хто абіраў бульбу.

*"Мы памылі рукі і прыйшлі ў спальнае памяшканне,* – сведчыў у судзе Вадзім Шаўчэнка. – *Гладкі загадаў: "Падайце і адціскайцеся".*

Усе маладзейшыя салдаты прынялі становішча "ўпор лежачы" і пачалі адціскацца. Тысячу разоў на пяцярых, па дзвесце на кожнага.

Раман Гладкі па чарзе падымаў маладых і даваў "лася". За ім такую ж "пракачку" ладзіў Сяргей Гузееў. Кожнаму прыпадала ад "дзеда" да дзясятка "ласёў".

Калі адціскацца ў маладых ужо не было сіл, "дзяды" загадвалі рабіць "сяброўскія прысяданні". Салдаты адзін за адным выстройваліся цугам, клалі выцягнутыя рукі на плечы таму, хто наперадзе, і адначасова пачыналі прысядаць. Рукі ў такой позе крыху адпачывалі, найбольшае напружанне прыпадала на ногі. Выходзілі пасля такой "пракачкі" мокрымі.

### Лютаўскі вечар

За розныя правіны, якія, паводле меркавання "дзядоў", учынялі маладыя, прызначаліся розныя пакаранні. 17 лютага здзек з маладых перайшоў усе межы. А пачалося ўсё з банальнага. Раман Гладкі дапытваўся ў **Аляксея Недашкоўскага**, які заступіў у нарад, куды падзеўся радавы Зайцаў. "Дзеду" Аляксей адказаў досыць дзёрзка.

*"Накіпела!"* – патлумачыў у судзе малады салдат. – *Гладкі і без таго ўжо надакучыў сваімі вечаровымі "прашарамі", а тут яшчэ і днём на службе стаў даймаць".*

Дзёрзкі адказ Аляксея прыйшоўся не даспадобы "дзеду" Раману. З яфрэйтарам Гузеевым яны вырашылі "пагаварыць" з маладымі, па-свойму разумеючы сэнс слова "гутарка".

Вярнуўшыся з нарада ў спальнае памяшканне, Аляксей Недашкоўскі застаў там звыклы малюнак. Праз каманду Рамана Гладкага ягоныя аднагодкі па службе ўжо адціскаліся і "па-сяброўску" прысядалі. Колькасць "павучальных практыкаванняў" зашкальвала – трыста адціскванняў і сотня прысяданняў. А паміж імі індывідуальныя "лекцыі" з выдачай "лася" і "аглядам фанеры". Недашкоўскага падымалі тры разы са становішча "ўпор лежачы".

*"Гладкі кулаком прабіваў "лася". Было каля дзесяці ўдараў",* – расказаў у судзе Аляксей.

Хвілін праз пяць у памяшканне прыйшоў яфрэйтар Гузееў і таксама далучыўся да "выхавання" маладых.

*"Загадаў мне "фанеру да агляду". Біў кулаком",* – працягваў Недашкоўскі.

Зноў закамандаваў адціскацца. Пры гэтым хтосьці з "дзядоў" нагою выбіў Аляксею руку, каб ён ткнуўся ў падлогу.

*"Я ледзь падняўся, хістаўся, кружылася галава,* – дадаў Аляксей. – *Лобах мяне вывеў. У мяне былі сінякі, рука апухла".*

Аляксандр Лобах у сваю чаргу расказаў у судзе, што вывеў Недашкоўскага ў душавую, абмыў яму галаву вадою, каб ён хутчэй прыйшоў у сябе.

Дасталася ў той лютаўскі вечар усім. Вадзім Шаўчэнка ад адціскванняў, "сяброўскіх" прысяданняў, "ласёў" і "фанеры" страціў прытомнасць.

### Мацаванне маральнага духу

У судзе Раман Гладкі і Сяргей Гузееў абвінавачванні прызналі часткова. Udараў нібыта было менш, дый не кулакамі яны білі салдат, а *"асновай далоні"* альбо наогул толькі *"пазначалі ўдар"*.

Што пацярпелы страціў прытомнасць пасля адціскванняў, падсудны Гузееў патлумачыў *"малым аб'ёмам лёгкіх"* у салдата. Дазнаўся пра тое выпадкова.

У лютым, канечне, *"перабаршчылі", "перагнулі кій"*. Пра гэта самі заявілі маладым у курылцы, каб выбачыцца і загладзіць сваю віну. А ў астатнім, маўляў, усё было добраахвотна, з дазволу маладых і ў форме жарту, гэткага вайсковага гумару дзеля *"падтрымання вайсковых традыцый"*.

*"Што такое дзедаўшчына – усе ведаюць,* – заяўляў Гузееў. – *І мэта нашых дзеянняў была накіравана на тое, каб неяк зблізіць малодшы прызыў, наладзіць таварыскія адносіны, умацаваць іх маральны дух".*

Суд высвятляў у пацярпелых: чаму яны ўсё ж такі пагаджаліся жыць "паводле дзеда", а не "паводле статута"? З адказаў вынікала, што салдаты малодшага прызыву апасаліся апынуцца ў ролі ізгояў, мець горшыя ўмовы службы, хадзіць часцей у нарады. А яшчэ шыхтам выпраўляцца ў прыбіральню, звяртацца да салдат ранейшага прызыву "таварыш радавы", "таварыш яфрэйтар".

### «Паглядзеў на твары – усе цэлыя»

У якасці сведкі ў судзе быў дапытаны начальнік рэзервовай мабільнай заставы капітан **Андрэй Волчак**.

*"Стала вядома мне пра нестатутныя адносіны пасля праверкі Гомельскай памежнай групы. Да гэтага тэлефанавала незнаёмая жанчына. Потым мужчына патэлефанаваў. Казаў, што беззаконне адбываецца, салдаты ходзяць у сіняках. Патрабаваў разабрацца. А хто, што – не назваў",* – тлумачыў камандзір.

Пасля тэлефанаванняў ён збіраў заставу, гутарыў з салдатамі – усімі разам. Скаргаў не было. І асобна ніхто не падыходзіў.

*"Паглядзеў на твары – усе цэлыя",* – казаў у судзе начальнік заставы.

Волчак дадаў, што на заставе ёсць зампаліт, які непасрэдна адказвае за ўзаемаадносіны, за маральны стан салдат. І любы камандзір мусіць сачыць за гэтым.

"А ўжо што атрымалася, тое атрымалася", – з пэўнай доляй фаталізму канстатаваў афіцэр.

### Армейскі грунт

"Дзедаўшчына" на заставе Гомельскай памежнай групы, дзякуй Богу, не прывяла да трагедыі, як тое здарылася ў Печах з салдатам тэрміновай службы з Пінска **Аляксандрам Коржычам**. Суд у бліжэйшы час вызначыць меру пакарання цяпер ужо былым "дзядам" Гладкаму і Гузееву, якія звольнены з арміі, але дадому так і не патрапілі. Непакоіць іншае. Нестатутныя адносіны на заставе выявілі зусім не камандзіры з штатам вайсковых ідэолагаў-зампалітаў, адказных за маральна-псіхалагічны стан асабовага складу сваіх часцей ды падраздзяленняў. Трывогу сталі біць невядомыя мужчына і жанчына – пэўна ж, сваякі пацярпелых.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
**Фота аўтара.**

***P.S.** Суд яшчэ не вынес сваё рашэнне. Чарговае пасяджэнне павінна адбыцца на гэтым тыдні.*

ФУТБОЛ

# БАТЭ – у адрыве!

*Адбыліся матчы 15-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: БАТЭ (Барысаў) – "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – 2:1, "Мінск" – "Шахцёр" (Салігорск) – 0:0, "Дынама" (Мінск) – "Тарпеда" (Мінск) – 1:0, "Дынама" (Брэст) – "Нёман" (Гродна) – 1:0, "Віцебск" – "Гомель" – 1:0, "Смалявічы" – "Прамень" (Мінск) – 1:1, "Слуцк" – "Гарадзея" – 1:0.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 15 | 12 | 2 | 1 | 25–8 | 38 |
| Дынама (Мн) | 15 | 10 | 4 | 1 | 20–7 | 34 |
| Віцебск | 15 | 9 | 4 | 2 | 20–9 | 31 |
| Шахцёр | 15 | 8 | 5 | 2 | 16–5 | 29 |
| Слуцк | 15 | 8 | 3 | 4 | 18–10 | 27 |
| Дынама (Бр) | 15 | 6 | 7 | 2 | 27–17 | 25 |
| Нёман | 15 | 7 | 4 | 4 | 16–13 | 25 |
| Тарпеда-БелАЗ | 15 | 7 | 3 | 5 | 15–11 | 24 |
| Іслач | 14 | 3 | 6 | 5 | 8–13 | 15 |
| Смалявічы | 15 | 3 | 5 | 7 | 11–14 | 14 |
| Мінск | 15 | 2 | 6 | 7 | 15–19 | 12 |
| Прамень | 15 | 2 | 4 | 9 | 11–25 | 10 |
| Тарпеда | 15 | 2 | 4 | 9 | 6–19 | 10 |
| Гомель | 15 | 2 | 4 | 9 | 6–21 | 10 |
| Днепр | 14 | 2 | 4 | 8 | 8–19 | 10 |
| Гарадзея | 15 | 1 | 5 | 9 | 9–21 | 8 |

**P.S.** *У табліцы не ўлічаны вынік матча паміж "Дняпром" і "Іслачу", які адбыўся ўчора вечарам.*





ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Адпачынак жонкі дэпутата



Жонка славутага беларускага спартсмена, алімпійскага чэмпіёна па фрыстайле, а цяпер індывідуальнага прадпрымальніка і дэпутата Мінскага гарадскога Савета **Аляксея Грышына Святлана Рудалава** – актыўны карыстальнік сацыяльных сетак. У адрозненне, дарэчы, ад мужа. Святлана пастаянна выстаўляе ў інтэрнэце свае новыя фатаграфіі – і часцей з адпачынку.

Так, напрыканцы красавіка – на пачатку мая Грышына-Рудалава дзялілася сваімі ўражаннямі ад адпачынку ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. На фота з пляжаў Дубая Святлана, у мінулыі паспяховая гімнастка, выглядала надзвычай прыгожа. Формам мамы дваіх дзяцей пазайздросціць любая жанчына! А на днях жонка дэпутата Аляксея Грышына падзялілася ўражаннямі ад адпачынку ў Італіі. Пасля наведвання Мілана, мяркуючы па яе фота ў сацсетках, Рудалава-Грышына перабралася на ўзбярэжжа Лігурыйскага мора – аднаго з самых прыгожых рэгіёнаў Італіі. Ці адпачывае разам са Святланай яе муж – не вядома. Як правіла, на сваіх старонках у сацсетках Святлана не публікуе сямейныя фота, а толькі тыя, дзе яна адна.

Напэўна, Святлана Грышына-Рудалава можа сабе дазволіць часты адпачынак за мяжой. Цяпер яе муж – паспяховы бізнесмен. У 2016 годзе даход Аляксея Грышына склаў 320.585,17 рубля – больш за 150 тысяч долараў па афіцыйным курсе. Гэта стала вядома падчас перадвыбарнай кампаніі ў мясцовыя Саветы, якія адбыліся ў лютым мінулага года. Аляксей Грышын балатаваўся ў Мінгарсавет, і інфармацыя пра ягоны прыбытак за 2016 год была размешча на сайце Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.

Святлана Рудалава і Аляксей Грышын пабраліся шлюбам у 2011 годзе. У пары падрастаюць дзве дачкі – сямігадовая Сафія і Арына, якой у маі споўнілася тры годзікі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 09.07.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 015 экз. Заказ № 2603.